наша
# свабода

№36(123) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

4 КРАСАВІКА
2001 года
СЕРАДА

Адрас: 220123,
г.Мінск, а/я 103

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.5
Катынь, Куропаты

## В.Путин наградил А.Лукашенко за заслуги

По случаю 5-летнего юбилея Союза Белоруссии и России президент Владимир Путин вручил Александру Лукашенко одну из высших государственных наград Российской Федерации – орден «За заслуги перед Отечеством» II степени. В ответном слове Лукашенко радостно благодарил за высокую награду, отметив, что это вообще его первая государственная награда. Правда, название ордена в данной ситуации придает награждению некую двусмысленность. Россия никогда не была Отечеством А.Лукашенко, он там не родился, не жил и, собственно, ничего для российского населения не сделал. Вероятно, Россия считает заслугой А.Лукашенко перед РФ процесс интеграции, которая угрожает Беларуси потерей экономической, финансовой, политической и любой другой самостоятельности. В этом случае Отечество начинает обозначать союзные земли, и это возвращает к той трактовке этого слова, которая сложилась при жизни Сталина. Однако главный чиновник Беларуси подчеркнул, что Россия в его лице имеет «самого надежного друга, самого порядочного человека по отношению к великой России». Почему-то А.Лукашенко не привез в Москву адекватную награду, в связи с чем В.Путин не имел повода сказать про свое порядочное отношение к Беларуси.

Но праздничные поздравления А.Лукашенко начал рассылать раньше. Еще за несколько дней до памятного дня А.Лукашенко сердечно поздравил с юбилеем госсекретаря Союза России и Белоруссии Павла Бородина. Поздравление было доставлено П.Бородину в Бруклинскую тюрьму, прямо в камеру, и, надо думать, вызвало у него ностальгические чувства.

На встрече в Кремле Лукашенко констатировал, что союзное государство стало политической реальностью, и что русские и белорусы «уже не иностранцы друг для друга». При этом Лукашенко отметил, что в России и в Белоруссии созданы равные условия «для передвижения и проживания» людей. К сожалению, он забыл сказать, что, несмотря на «равенство передвижения», люди двух стран живут сильно по-разному. Вечером в Колонном зале Дома Союзов состоялся праздничный банкет.

**Петр КЛИМКОВИЧ**

## Нашыя зенітчыкі вучацца збіваць самалёты *NATO*

На выдатную адзнаку адстраляліся беларускія зенітчыкі падчас сакавіцкіх вучэнняў на Палескім палігоне. Пра гэта заявіў журналістам камандуючы СПА генерал-лейтэнант Валерый Кастэнка, падводзячы вынікі манеўраў. Ён паведаміў, што з 10 мішэняў, якія імітавалі самалёты праціўніка, ракетчыкі «збілі» 9 і адну «паранілі». Стральба вялася з установак С-300 М1 «Нява», што і забяспечыла поспех. Маўляў, гэтыя ўстаноўкі, хоць і не апошняе слова ва ўзбраенні, але спісваць іх у «тыраж» рана. Па словах генерала Кастэнкі, такія ж устаноўкі мадыфікацыі «Пячора» стаяць на ўзбраенні многіх арабскіх, паўднёваамерыканскіх ды азіяцкіх краінаў і паслужаць яшчэ шмат гадоў, бо ў стане збіваць самыя сучасныя самалёты. А тое, што пакуль трэніруемся на паветраных шарах – не бяда. Вось у жніўні беларускія зенітчыкі паедуць на манеўры пад Калінінград, дзе будуць страляць па копіях крылатых ракетаў. Гэтыя навыкі, паводле Кастэнкі, вельмі патрэбныя, улічваючы досвед супрацьстаяння *NATO* і Югаславіі. «Вось Мілошавіч ужо не пры ўладзе, а калі б югаслаўскія СПА былі моцныя, то нічога гэтага не было б», – падзяліўся сваімі высновамі генерал Кастэнка. Па ягоных словах, гэта добра разумее і Аляксандр Лукашэнка, які аказвае войскам СПА ўсялякую падтрымку. Кастэнка аднак ўпэўнены, што адбівацца ад самалётаў *NATO* нам не давядзецца.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Бальшыня палаты здасць грошы


Фота IREX/ProMedia

11 красавіка на ратыфікацыю Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу будзе прадстаўленае Пагадненне «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі». Віцэ-спікер ніжняй палаты Уладзімір Канаплёў, які пра гэта паведаміў, выказаў меркаванне, што беларускія дэпутаты «неаспрэчнай бальшынёй» галасоў здзейсняць ратыфікацыю пагаднення для больш шчыльнага саюза з Расіяй пры захаванні «пэўнай незалежнасці». Якая мера незалежнасці застанецца Беларусі, ці можна яе будзе разгледзець, не маючы ўласных грошай і фінансаў, У.Канаплёў вырашыў не ўдакладняць.

## Рэферэндум для Канстытуцыі

Патрэба змяніць Асноўны Закон проста вырашаецца ўсенародным галасаваннем, бо народ Канстытуцыі не чытае. Так было з брэжнеўскай і з лукашэнкаўскай канстытуцыямі, так, відаць, будзе і з новай «саюзнай». Ужо пачалося фармаванне сумеснай рабочай групы па распрацоўцы Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы – Беларусі і Расіі. У склад групы ўвойдуць дэпутаты беларускага і расійскага парламентаў, прадстаўнікі выканаўчай і судовай уладаў дзвюх краінаў. Заканатворчая праца групы, па папярэдніх меркаваннях, працягнецца да канца 2001 года. А потым праект Канстытуцыі будзе вынесены на рэферэндум у абедзвюх дзяржавах, што гарантуе яго прыняцце.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

# Як пяяў — так адпяваюць

Арышт і памяшчэнне ў турму экскіраўніка югаслаўскай дзяржавы Слабадана Мілошавіча, якому выстаўляюцца абвінавачванні ў перавышэнні ўлады і растраце дзяржаўных сродкаў, выклікаў раздражненне ў А.Лукашэнкі. Прыбыўшы ў Маскву на святкаванне непрызнанай нікім у свеце дзяржавы, А.Лукашэнка палічыў неабходным публічна назваць гэты арышт «абуральным і недэмакратычным». Паводле яго словаў, гэтакія дзеянні ў дачыненні да былых прэзідэнтаў ствараюць дрэнны імідж дзяржавы. А.Лукашэнка нават узгадаў рускую прыказку «Как поют — так отпевают», якая, на яго думку, падказвае, што тыя, хто нядобра ставіцца да былога прэзідэнта Мілошавіча, самі зведаюць калі-небудзь гэткія адносіны. Па сутнасці, А.Лукашэнка агучыў тэзіс аб недатыкальнасці асобы кіраўніка, што б той ні нарабіў. Насуперак такім парадам югаслаўская паліцыя высунула супраць Слабадана Мілошавіча абвінавачванні ў тым, што ён падштурхоўваў сваіх целаахоўнікаў страляць у паліцэйскіх, якія прыйшлі выконваць рашэнне аб арышце. Калі яго прызнаюць вінаватым, Мілошавічу пагражае да 15 гадоў зняволення.

А сам арыштаваны экс-прэзідэнт Югаславіі ўжо прызнаў, што тайна фінансаваў сербскія ўзброеныя фармаванні ў Босніі і Харватыі ў гады, калі гэтыя краіны змагаліся за аддзяленне ад былой Югаславіі. Паводле яго прызнання, на гэтыя мэты было выдаткавана 118 мільёнаў долараў дзяржаўных сродкаў, а ўсвядомленая супрацьзаконнасць такой падтрымкі вымушала не паказваць іх у бюджэце. Менавіта за ваенныя злачынствы, здзейсненыя ў ходзе той вайны, Міжнародны трыбунал і дамагаецца выдачы С.Мілошавіча для суда ў Гаазе.

Міністр унутраных справаў Сербіі Д.Міхайлавіч не выключыў, што, у рэшце рэшт, Мілошавіч сам папросіцца ў Гаагу, бо ў Сербіі існуе смяротнае пакаранне, а турмы менш камфартабельныя, чым мае Міжнародны трыбунал.

На гэтакім фоне заява А.Лукашэнкі пра недэмакратычнасць арышту асобы, вінаватай у фінансаванні вайны і злачынстваў супраць чалавечнасці, выглядае досыць дзіўна.

**Яўген ГАРЭЛІК**

## НАВІНЫ

■ **Міністэрства эканомікі праіндэксавала камунальныя тарыфы на красавік на 4%.** Узраслі кошты на забеспячэнне халоднай і гарачай вадой, на ацяпленне, карыстанне ліфтам і вываз бытавых адходаў. Плата за карыстанне жытловымі памяшканнямі складае цяпер 10,25 рубля за квадратны метр.

■ **На гэтым тыдні дэпутаты «палаты» зноў не ўключылі ў парадак сесіі пытанне аб прызначэнні даты прэзідэнцкіх выбараў.** Наступная спроба вярнуцца да гэтай тэмы будзе зробленая напачатку траўня. Нагадаем, што рашэнне аб даце прэзідэнцкіх выбараў павінна быць прынятае да 26 чэрвеня.

■ **Беларусь выдаткуе Кітаю ў якасці гуманітарнай дапамогі на суму 20 тысячаў долараў.** Гэтыя грошы пойдуць на пераадоленне наступстваў снежнай буры, што абрынулася нядаўна на гэтую краіну. Гуманітарная дапамога будзе арганізоўвацца паводле ўрадавай пастановы.

■ **Міністр абароны Леанід Мальцаў заявіў, што бліжэйшым часам у Беларусі будуць перагледжаныя тэрміны ваеннай службы.** Паводле словаў Мальцава, гэта адбудзецца «адназначна» і прыкладна праз 1,5-2 гады. Зараз вайскоўцы тэрміновай службы знаходзяцца ў арміі 18 месяцаў, а тыя, хто мае вышэйшую адукацыю, служаць 12 месяцаў.

■ **Падпісаны ўказ «Аб парадку прадастаўлення грамадзянам Рэспублікі Беларусь прызыўнога ўзросту, якія вучацца ў навучальных установах за мяжой, адтэрміноўкі ад прызыву на тэрміновую ваенную службу».** Хлопцам, паступіўшым на вучобу ў замежныя навучальныя ўстановы, будзе прадастаўляцца адтэрміноўка ад прызыву. На час іхняй вучобы воінскі ўлік будзе весціся не ў ваенкаматах па месцы жыхарства, а дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі Беларусі за мяжой.

■ **2 красавіка ў «гадзіну пік» рух тралейбусаў у раёне вуліцы Сурганава ў Мінску быў цалкам перапынены.** Справа ў тым, што грузавік, што перавозіў экскаватар, зачапіў правады і абарваў іх на ўсім участку дарогі (каля 300 метраў) ад перакрыжавання вуліцаў Сурганава і Чорнага да праспекта Скарыны. Паралізаваўся тралейбусны рух 8 маршрутаў, якімі людзі дабіраюцца ў так званыя спальныя раёны горада.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1330**

# Над телом дохлого удава

Над страной повисла пауза: «Что же дальше?». Выбор для Беларуси, к сожалению, невелик – или медленная изуверская погибель, или мучительное и невероятно долгое выздоровление. Помните, всего лет семь назад, у нас были гораздо более оптимистические виды на будущее и более радостные перспективы. Тогда казалось, что страну ожидает прогресс, с той или иной скоростью, с тем или иным успехом на пути экономических реформ, пусть медленно и нерешительно, но обязательно будет прогресс. И никто, вероятно, не ожидал такого бездарного превращения динамичной индустриальной Беларуси в гнилое и ржавое колхозное болото. Александр Лукашенко, которому выпало невероятное счастье стать первым президентом Республики Беларусь и уникальный шанс обессмертить свое имя на века как строителя и созидателя новой суверенной европейской страны, оказался бессильным перед такой грандиозной задачей. Его уровень компетентности был гораздо ниже требований, предъявляемых к главе европейского государства. За семь лет безраздельного директивного правления он так и не приблизился хотя бы к отдаленному пониманию своей миссии, обесценил авторитет главы государства, нанес непоправимый моральный урон всей нации, отбросил экономику страны в далекое прошлое, поставил под вопрос само существование Беларуси. Это величайшее несчастье всего нашего государства, сопоставимое, пожалуй, с вражеской оккупацией во время войны.

Нет ни малейшего сомнения, что почти все из того, что создавал Лукашенко эти семь лет (конституцию, «вертикаль», бюджет, парламент, дипломатию и т.д.) будет впоследствии безжалостно стерто. То, что так упорно лепил первый президент наперекор здравому смыслу и рассудку, уже сегодня нежизнеспособно, ненадежно, как сарай, подпертый колом. Вполне естественно было бы ожидать, что вместе с этой уродливой государственной системой в прошлое навсегда канет и сам ее вдохновитель. Каждый день его задержки у руля государственной власти уже сегодня стоит Беларуси колоссальных издержек. Однако два последних года Лукашенко всеми силами дает нам понять, что не собирается на заслуженный покой. Пока он нескромно намекает, что не худо бы переизбраться на новый срок. Ответ на вопрос «зачем?» повисает в воздухе. Затем, очевидно, что лично ему этого очень хочется. Вполне вероятно, что власть сама по себе уже стала для Лукашенко тем единственным средством, которое поддерживает жизнь в его организме, дает ему ощущение осмысленности существования. Увы! Иногда случается так (а мы это знаем по собственной истории), что человек хронически заболевает властью, как наркоман, и покидает свой пост только в положении «вперед ногами». Нужно ли терпеливо ждать такой развязки нам? Могут ли ее дождаться люди среднего возраста? Как оценивают медики состояние здоровья старого кандидата в президенты в этом разрезе?

Кто бы мог подумать в 1994 году, что мы будем задавать Лукашенко такие саркастические вопросы на заре нового тысячелетия? Семь лет назад диктатура казалась совершенно невозможной. Пожалуй, из политиков один только Зенон Станиславович Позьняк предвидел такой финал Лукашенко и понимал истинную сущность этой власти в полной мере. Помню, как лидер БНФ призывал всех белорусских политиков дать Лукашенко сто дней без критики *и потом непредвзято оценить* результат. И как все эти сто дней Лукашенко вместо конкретных государственных дел поливал своих молчавших оппонентов грязью. И как Позьняк после этого сделал умозаключение о полной неспособности таких людей руководить государством. А мы, предчувствуя справедливость этих утверждений, все-таки наивно надеялись на лучшее.

Теперь выясняется, что Лукашенко и после семи лет не наелся власти, он хочет еще. Вот уже два года он только тем и занимается, что ведет свою избирательную кампанию за государственный счет. Однако же безуспешно: в народе за ним уже стойко закрепилось выразительнейшее клеймо вздорного и болтливого человека, неспособного к созидательной работе. Весь свой отрицательный имидж Лукашенко заработал самостоятельно, заслуга оппозиции лишь в том, что она обратила внимание общества на некоторые его особенности, усилила их, помогла ярче проявиться. С таким клеймом на выборы не выходят, потому как нет надежды на успех. Страна стала другая: она выросла и поумнела. По последним независимым социологическим исследованиям, сторонников у Лукашенко осталось процентов на пятнадцать. Объективно говоря, это раза в два меньше, чем может быть, например, у Павла Козловского, если обеспечить им равные возможности. Это крах с точки зрения здравого смысла. Иметь такую семилетнюю программу саморекламы и получить на выходе обычное число инертной общественной массы – это надо уметь. Таким образом, опасность избрания Лукашенко на второй срок путем проведения *честных* выборов (о всевозможных махинациях, спекуляциях, подтасовках, приписках, подделках и прочих уголовных приемах мы пока не говорим) благополучно минула примерно года полтора назад. Об этом громко говорила оппозиция, это предвосхищали социологи, это предвидели умные чиновники. Наконец этот мотив стало чувствовать почти все общество и над страной повисла пауза: «Что же дальше?».

Дальше – выборы нового президента Республики Беларусь. Уже известно, что это должен быть достаточно образованный человек, патриот Беларуси, хороший семьянин, решительный, энергичный, сдержанный, с чувством собственного достоинства, уважающий мнение окружающих, умеющий находить общий язык со всеми слоями населения и всеми социальными группами. Соответствуют ли этим критериям оппоненты властолюбивого шкловского самородка? Как они выглядят на фоне перманетной злобы, запугиваний и телевизионной чепухи, извергаемой в их адрес? Держат ли удар, умеют ли переходить в *наступление, демонстрируют* ли непреклонную волю к победе? Заражают ли своих сторонников оптимизмом, без которого победа невозможна?

Давайте обратим свой взор на известных нам реальных кандидатов в *честно* избранные президенты Республики Беларусь. Это группа из трех политиков: *Михаила Чигиря*, Павла Козловского и Владимира Гончарика, уже на начальном этапе объединивших свои усилия, а также стоящий в некотором отдалении в интригующем молчании гродненец Семен Домаш. Что и говорить, это компания достаточно опытных в номенклатурных интригах людей с достаточно широким кругом личных знакомств в коридорах власти, что при нашей общественно-политической системе совершенно нелишне. За каждым из них, по-видимому, стоят определенные силы нашего общества, каждый из них вызывает определенные симпатии и уважение населения. В пику ныне действующему главе государства, эти люди имеют выраженный созидательный потенциал. Каждый из них прошел хорошую жизненную школу, которая обломала слишком острые углы натуры и сгладила характеры. Все они понимают величайшую ценность государственной независимости страны и, вместе с тем, придерживаются курса на всестороннее и самое тесное сотрудничество с Россией. Их нельзя назвать ни оппозиционерами, ни радикалами, ни националистами, ни великодержавными русскими шовинистами. Собственно говоря, даже разделение их на две неравные группы пока воспринимается с недоумением: непонятно, чем они кардинально отличаются друг от друга? Разве что профессиональной принадлежностью к различным ведомствам. Чигирь – к правительственным, Козловский – к армейским, Гончарик – к профсоюзным, Домаш – к номенклатурным. Это неуловимое подобие настолько их роднит, что только по реакции окружающих и понимаешь, кто в этой компании фаворит. Возможно, что некоторую ясность дадут нам их программы, которые появятся только после объявления сроков проведения выборов нового президента страны. А до той поры мы невольно вынуждены оценивать их по принципу «нравится – не нравится». И нам пока что очень многое в них не нравится. Прежде всего неопределенность их положения, нерешительность, колебания, неуверенность. Бесконечные согласования, утряска мелких деталей. Они никак не выберут стратегию наступления. Они рефлексируют, разглядывают власть издалека. Непонятная робость, которую проявляют наши потенциальные кандидаты в деле организации собственного успеха, заставляет усомниться в их возможностях. *Вполне вероятно*, что в их кругах такое поведение называется осмотрительностью и приветствуется провинциальными интеллектуалами, но такими приемами любовь избирателей не получают.

Фаворитом сегодня называют Семена Домаша. Почему? Он сделал несколько конкретных *небольших шагов про* направлению к заявленной цели. Собрал единомышленников и провел несколько встреч с гражданами. Он показал, что при желании может хорошо стартовать. Его готовы поддержать влиятельные внутриполитические силы. И, как следствие, в отношении Домаша уже началась легкая кампания по дискредитации в некоторых СМИ. Пока на уровне нежелательных сравнений и придуманных противоречий. Но эти, на первый взгляд, несерьезные детали показывают внимательному наблюдателю, что за другими гадостями, покрупнее, дело не станет. Возможно, что некоторые пророссийские круги в Беларуси уже выбрали своего ставленника. И если в ближайшее время Семен Домаш не возьмется за серьезную работу по формированию собственного имиджа, информационный и образный вакуум вокруг него будет постепенно заполнен мелкими гадостями, возникающими в разных газетах и на телевидении, которые способны нанести ему значительный моральный урон и свести на нет его усилия. Развязка может стать вовсе не такой оптимистичной, какой она может быть.

Все наши потенциальные кандидаты в президенты мыслят пока категориями номенклатурных заседалищ и дружеских официальных бесед, когда одна группа очень крупных товарищей решает судьбу просто товарищей за дубовым столом и под красным знаменем в неторопливых дружеских пересудах. Возможно, все наши герои что-то там делают в кулуарах, шушукаются в полумраке влиятельных кабинетов, перезваниваются с друзьями по коммунистической молодости, зондируют почву в Москве. Их вдохновляет пример Коштуницы, который возник из ниоткуда и добился всего. Тем не менее, они должны отчетливо понимать, что без решительных, грамотных, самоотверженных действий, без современной технологии победы не видать, пусть даже она почти что в кармане. Страна ждет уверенного в себе и порядочного человека, решительно идущего на приступ гнилого режима. Пауза затянулась. Нужен лидер, ядро будущей государственной власти, аккумулятор всех лучших сил нации, созидатель, готовый к долгой, тяжелой и неблагодарной работе по ликвидации последствий катастрофы первого президентства. Кому по силам эта ноша?

**Александр ДУБРАВИН**



ПРАТЭСТ

## Спыніць судовы пераслед

Прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Рычард Баўчар выступіў з заявай, у якой адзначыў, што «Злучаныя Штаты дужа занепакоеныя абыходжаннем беларускіх уладаў з тымі грамадзянамі Беларусі, якія публічна адзначылі Дзень Волі 25 сакавіка».

25 сакавіка былі затрыманы шэраг арганізатараў і ўдзельнікаў несанкцыяваных дэманстрацыяў у Мінску і Брэсце. «Некаторыя былі змешчаныя ў турму, як, напрыклад, Вінцук Вячорка, старшыня Беларускага Народнага Фронту – адной з асноўных дэмакратычных палітычных партыяў, якому было прысуджана 15 сутак зняволення. Іншыя, як парламентарый Людміла Гразнова, былі аштрафаваныя на суму, якая перавышае месячны заробак. Праваабаронца Алесь Бяляцкі і дэмакратычны маладзёжны лідэр Павел Севярынец чакаюць суда». Рычард Баўчар падкрэсліў, што «свабода сходаў і свабода слова — гэта асноўныя правы чалавека, якія Беларусь абавязаная паважаць. Беларускія ўлады заклікаюць да паляпшэння адносінаў з міжнароднай супольнасцю. Мы заклікаем беларускія ўлады падтрымаць свае дэкларацыі дзеяннямі, пачаўшы з неадкладнага вызвалення спадара Вячоркі і іншых зняволеных, спыніўшы карныя захады супраць усіх, хто адзначаў беларускі Дзень Волі».

**Генадзь ДУДАРЭВІЧ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## КРДС мяняе прыярытэты

*Гэтым тыднем Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў мяркуе прэзентавацца перад замежнымі дыпламатамі, акрэдытаванымі ў Мінску. Канкрэтную дату сустрэчы з дыпламатычным корпусам 3 красавіка назаве «малы КРДС».*

Адсутнасць агульнай пазіцыі сябраў Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў па адзіным кандыдаце ў прэзідэнты вымагае ад КРДС пошуку іншых шляхоў кансалідацыі аб'яднанай апазіцыі. З заступленнем 15 сакавіка на старшынства АГП змяніла прыярытэты дзейнасці КРДС: замест вылучэння адзінага кандыдата на першае месца выступае выпрацоўка адзінага сцэнара прэзідэнцкай гонкі. Ва ўсякім выпадку, старшыня АГП А.Лябедзька прыярытэтным аб'явіў менавіта адзіны сцэнар – і апошнія дзеянні Рады скіраваныя менавіта ў гэтае рэчышча.

На брыфінгу 27 сакавіка па выніках чарговага паседжання КРДС Анатоль Лябедзька паведаміў, што КРДС мае тры прыярытэты, першым з якіх з'яўляецца «ўмацаванне структуры Каардынацыйнай рады», бо на ўзроўні рэгіёнаў «ужо ідзе барацьба розных груповак за людзей, што недапушчальна», і забеспячэнне інфармацыйнай падтрымкі. На наступным тыдні КРДС збіраецца самапрэзентавацца дыпламатычнаму корпусу, акрэдытаванаму на Беларусі. «КРДС існуе некалькі гадоў, але ў дыпламатычных ведамствах няма люстэркавага ўяўлення, што такое КРДС на сённяшні дзень. Фактычна КРДС – гэта аб'яднаная дэмакратычная кааліцыя, кааліцыя рэальных сілаў і рэсурсаў», — падкрэсліў А.Лябедзька.

Другім прыярытэтам абвешчанае «стварэнне інфраструктуры выбарчай кампаніі». «Усе прэтэндэнты закладваюць выдаткі толькі на працу са СМІ, людзьмі, але ўсе разлічваюць, што менавіта КРДС вырашыць пытанні з нагляданнем, сістэмнай працай з выбарчымі камісіямі, будзе займацца мабілізацыйнай кампаніяй – каб моладзь прыйшла на выбары, будзе займацца выпрацоўкай праграмы пазітыўных пераменаў». А.Лябедзька лічыць, што такія моцныя «палітычныя цэнтры, як КРДС, у бліжэйшы час з'явіцца не могуць». У звязку з тым, дзеля рэалізацыі абвешчаных мерапрыемстваў, КРДС стварыла дзве рабочыя групы ў рамках Рады. Першая на чале з Паўлам Данейкам зоймецца выпрацоўкай адзінай «праграмы пераменаў» і перадвыбарнай платформы. «Хто будзе адзіным кандыдатам – пакуль невядома, але гэтая праца мусіць быць зробленая», – падкрэсліў А.Лябедзька. Група П.Данейкі, у аснову каторай пакладзены вопыт югаслаўскай «Джы-17», мае месяц на падрыхтоўку першага праекта дакумента. Праект мусіць быць двухузроўневы: найперш ён будзе накіраваны на міжнародную экспертызу (у Сусветны банк, МВФ) «на прадмет таго, што гэтая праграма адпавядае міжнародным стандартам і пад гэтую праграму могуць прыйсці інвестыцыі», а па-другое, ён мусіць быць зразумелы кожнаму беларусу нават у самай аддаленай вёсцы.

Другая рабочая група зоймецца працай з выбарчымі камісіі. Прычым яе дзейнасць будзе праводзіцца па двух накірунках: па вылучэнні людзей у выбарчыя камісіі (каардынатар – Вячаслаў Сіўчык) і «апрацоўка» тых людзей, каторыя ўжо ўваходзяць у склад камісіяў (Васіль Шлындзікаў). У дзеючыя камісіі ўваходзяць каля ста тысячаў «звычайных» людзей, з якімі ніхто сістэмна не працаваў. На плечы В.Шлындзікава ўскладаецца стварэнне банка звестак пра гэтых людзей, а затым кожнаму сябру выбарчых камісіяў асобна будзе накіраваны пакет дакументаў, магчыма, зварот як да грамадзянаў краіны і як службовых асобаў, якія мусяць выконваць законы.

Безумоўна, закраналася пытанне і пра такое доўгачаканае вызначэнне адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Нягледзячы на рашучасць Рады называць адзінага кандыдата да афіцыйнага абвяшчэння выбараў, «мы не гатовыя да таго, каб прымаць нейкія рашэнні ў фармаце КРДС». Галоўным у бягучай палітычнай сітуацыі, на думку А.Лябедзькі, «у першую чаргу трэба рабіць арыентацыю на тое, каб быў выпрацаваны адзін сцэнар». А.Лябедзька сцвярджае, што КРДС «скаваная невырашэннем пытання адзінага кандыдата». «У нас ёсць дамоўленасці на сустрэчы даволі высокага ўзроўню ў той жа Расіі, але мы не можам выехаць туды, пакуль не вызначымся з гэтым пытаннем унутры. Таму што ў Расію нельга ехаць слабым, нельга ехаць з нявызначанай, незразумелай пазіцыяй. Туды трэба прыязджаць і ставіць перад фактам: што ёсць адзіны кандыдат, што ёсць адзіная каманда, што гэты вялікі патэнцыял людскіх рэсурсаў – толькі тады мы можам прымусіць, каб Крэмль, афіцыйныя расійскія ўлады лічыліся з гэтым. Калі мы будзем дэманстраваць слабасць, то мы можам прагназаваць, што Крэмль будзе падтрымліваць Лукашэнку», — заявіў старшыня АГП.

КРДС вырашыла красавік правесці «пад знакам Чарнобыльскай катастрофы» – Рада стварыла рабочую групу, якая зоймецца выпрацоўкай цэлага шэрагу мерапрыемстваў – не толькі «Чарнобыльскага шляху – 2001» – да 15-й гадавіны катастрофы на ЧАЭС.

**Рыгор БУЯН**

# «Бяздушны абыякавы абывацель...»

## Гэтак у кампазітарскіх скаргах трактуюцца адносіны дзяржавы да мастацтва

*У Грамадскім прэс-цэнтры ў Мінску адбыўся «круглы стол» на тэму «Беларускі Саюз кампазітараў. Нацыянальная школа пачатку 21 стагоддзя. Праблемы і задачы Саюза». Але галоўным чынам гаворка вялася пра разнастайныя праблемы кампазітараў, галоўная з якіх – адсутнасць падтрымкі з боку дзяржавы сур'ёзнай музыцы. На думку ўсіх прысутных, палітыка ўладаў цяпер накіраваная на прапаганду сярод насельніцтва нізкаякаснай папсы, правядзенне камерцыйных гастрольных тураў, фестываляў.*



Фота IREX/ProMedia

У той жа час у беларускіх кампазітараў акадэмічнага жанру няма ні фінансавых магчымасцяў, ні спецыяльнага музычнага выдавецтва, каб давесці сваю музыку да слухачоў. Каб атрымаць падтрымку міністэрства культуры, трэба быць вядомым, а гэта ў сваю чаргу немагчыма без гэтай самай падтрымкі. Звароты на радыёстанцыі і тэлебачанне не даюць ніякага плёну. Як адзначыў дырыжор Анатоль Лапуноў, «беларускае тэлебачанне праводзіць палітыку, дзе няма месца акадэмічнай музыцы».

Акрамя творчых праблемаў, не менш, а то і болей турботаў дадаюць праблемы бытавога кшталту – як то зарабкавае ці кватэрнае пытанне. Вырашыць апошняе льготным будаўніцтвам новых дамоў бліжэйшым часам паабяцаў на нядаўняй нарадзе з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі А.Лукашэнка. Але, як высветлілася, гэта даступна не для ўсіх. Па-першае, пачатковы ўнёсак на будаўніцтва складае ў залежнасці ад планіроўкі кватэры ад 2 да 10 тысячаў долараў.

Па-другое, права на такое льготнае будаўніцтва (будзе выдаткоўвацца крэдыт на 20 гадоў) маюць толькі тыя кампазітары, хто стаў на ўлік на паляпшэнне жытловых умоваў да 1990 года.

Яшчэ са сталінскіх часоў за кожным творцам было замацаванае права на 20 квадратных метраў дадатковай жытловай плошчы для "творчай працы", але да гэтага часу займець сваю майстэрню пашэнціла толькі найбольш «заслужаным». Для іншых, па словах кампазітара Фёдара Бытаева, нейкія ўмовы для працы ёсць толькі ў Дамах творчасці, але гэта не танна. Каб напісаць адну сімфонію (а гэта 1,5-2 гады), трэба патраціць не менш за 5 тысячаў долараў. Але столькі за яе ніхто потым не заплаціць. Як было адзначана, што да заробкаў пра кампазітараў дзяржава не пячэцца як пра міліцыю – у сярэднім выпадае 10 долараў на месяц. А ганарар, напрыклад, за напісанне оперы складае не болей за 300 долараў. Пры гэтым за выкананне па радыё ці на сцэне філармоніі сваіх твораў аўтар не атрымлівае нічога.

Ужо 3 гады як прыпынена членства беларускіх кампазітараў у Міжнароднай асацыяцыі сучаснай музыкі за несплату штогадовых членскіх унёскаў. Саюз кампазітараў і міністэрства культуры не маюць магчымасцяў заплаціць 1.000 галандскіх гульдэнаў (450 долараў) штогод за тое, каб нашых кампазітараў прымалі там як паўнапраўных удзельнікаў з правам голасу. На міжнародныя форумы і ростумы творцам даводзіцца ездзіць за ўласны кошт.

Такую крыніцу даходаў, як адлічэнні ад выкананняў на тэрыторыі Беларусі музычных твораў усіх без выключэння кампазітараў свету ў памеры 3%, якія раней траплялі ў аўтарскі фонд Саюза, зараз сабе прысвоіла дзяржава. Для папаўнення саюзнага бюджэту даводзіцца здаваць у арэнду ўласныя памяшканні, трымаць на сваёй плошчы карцінную галерэю, але і гэтага недастаткова, каб вырашыць нават бягучыя фінансавыя пытанні. Пад пагрозай знішчэння знаходзіцца фонд запісаў беларускай музыкі, які трэба перапісаць на высакаякасныя носьбіты інфармацыі. Таму і сыплюцца на вачах многія відэастужкі: так, ужо страчаны запіс аперэты «Паўлінка».

Адказ першага намесніка міністра культуры Уладзіміра Рылаткі на ўсе кампазітарскія скаргі быў звыклы — «усё, што мы можам, мы імкнемся рабіць», а сітуацыя ў музыцы, маўляў, не настолькі і кепская. Напрыклад, дзяржаўныя замовы на стварэнне грунтоўных твораў захаваліся: у 1998 годзе было замоўлена 370 твораў на 1,4 мільярда рублёў, у 1999 годзе – 300 на 5,5 мільярдаў рублёў, а ў 2000 годзе – 200 на 17 мільёнаў рублёў. І ганарар за оперу быў раней 300 долараў, а зараз, напрыклад, Картэс з Халіпам новую оперу ствараюць па новых расцэнках – 3.000-5.000 долараў.

А ўсе фінансавыя цяжкасці і аплату ўнёскаў Асацыяцыі сучаснай музыкі Уладзімір Рылатка параіў паступова вырашаць за кошт штогадовых прэзідэнцкіх грантаў: маўляў, атрымалі 10.000 долараў – вось і трацьце. У бягучым годзе ён паабяцаў, што будзе выдадзены грант на пастаноўку оперы «Пані Ядвіга» і 20 мільёнаў беларускіх рублёў — на прапаганду беларускай акадэмічнай музыкі, а пастаноўка оперы «Несцерка» і выданне Анталогіі беларускай музыкі адкладзеныя да будучага года.

Не спадзеючыся на міністэрства культуры і іншыя дзяржаўныя інстанцыі, кампазітары маюць намер звярнуцца з лістом да А.Лукашэнкі. Улічваючы, што гэта будзе зроблена напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, мо чаго кампазітары і дачакаюцца. Але пакуль дзяржава, з іхніх словаў, застаецца «бяздушным абыякавым абывацелем у адносінах да мастацтва».

Алена ЛАБАНАВА

# Дзякуй, рэзананіст!

Агенцтва «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)

Першакрасавіцкі выпуск праграмы «Рэзананс» нечакана распачаўся не Аляксандрам Лукашэнкам, як звычайна, а паведамленнем (нібыта агенцтва «Ю.С.Ньюс» ды нібыта з пазнакай «ТЭРМІНОВА!») пра тое, што нібыта згарэла лецішча генерала П.Казлоўскага.

Аўдыторыя «Рэзананса» вельмі здзівілася б, калі б ягоны дыктар Аляксандр Зімоўскі сказаў хоць раз праўду, нават 1 красавіка. А так нічога незвычайнага ў далейшай праграме не было.

Праўда, найлепшым жартам «Рэзананса» быў другі паводле храналогіі – пра візіт А.Лукашэнкі ў Маскву. Тэлесюжэт пра ягоны адлёт з Мінска быў вельмі смешна абрэзаны на паўслове — зусім па-першакрасавіцку. А яшчэ... «кіраўнік Найвышэйшага дзяржсавета адзначыў, што Саюз Беларусі і Расіі стаў магутным палітычным фактарам і, нягледзячы ні на што, у саюзнай дзяржавы вялікія перспектывы», — пажартаваў з экрана дыктар Зімоўскі.

Нягледзячы ні на што, агенцтва «Ю.С.Ньюс» выказвае падзяку намесніку старшыні Белтэлерадыёкампаніі за бясплатную рэкламу, ды яшчэ ў пачатку «Рэзананса» – перад самім Лукашэнкам.

## Конкурс на стыпендыю ў 30 долараў

Указам А.Лукашэнкі ад 4 жніўня 1998 года былі заснаваныя «прэзідэнцкія» стыпендыі з мэтай сацыяльнай падтрымкі маладых вучоных і стымулявання іх творчай актыўнасці. Адпаведна Нацыянальная акадэмія навук Беларусі абвясціла конкурс 2001 года на прызначэнне гэтых стыпендыяў беларускім вучоным: 20 стыпендыяў кандыдатам навук (да 35 гадоў) і 10 стыпендыяў дактарам навук (да 45 гадоў). Стыпендыі прызначаюцца штогод на тэрмін да двух гадоў. Памер стыпендыяў: для дактароў навук – 9 мінімальных зарплат, для кандыдатаў навук – 7 «мінімалак». Дакументы на конкурс стыпендыяў трэба здаць да 1 траўня 2001 года. Заключэнні па стыпендыях канчаткова рыхтуе прэзідыум Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, канчатковае рашэнне аб іх прымае асабіста кіраўнік дзяржавы.

Мікола РУДЫ

## Ад Дня дурняў да Дня яднання

Затрыманнямі сярод маладафронтаўцаў завяршылася святкаванне гадавіны ўтварэння Саюза Беларусі і Расіі, зладжанага 1 красавіка. Каля 23.00 – калі ў Беларусі святкавалася яшчэ Дзень дурняў, а ў Расіі настала 2 красавіка – Дзень яднання – на Кастрычніцкай плошчы моладзь зладзіла перформанс пад лозунгам «Дзень яднання Расіі з дурнем». Каля 20 маладых хлопцаў – у бушлатах і ў медыцынскіх халатах – пратэставалі, па словах П.Севярынца, «супраць інтэграцыйных працэсаў Аляксандра Лукашэнкі». Неўзабаве трое ўдзельнікаў перформанса былі затрыманыя міліцыянтамі, кінуты ў аўтазак з АМАПаўцамі і дастаўлены ў Цэнтральны РАУС Мінска. Але пад раніцу выпусцілі. П.Севярынцу, які трапіў дахаты толькі а пятай гадзіне, паабяцалі, што з ім «разлічацца 5 красавіка» – менавіта гэтым днём суддзя Цэнтральнага райсуда Мінска Таццяна Паўлючук будзе судзіць яго за 25 сакавіка.

Яшчэ адно надзвычайнае здарэнне з сябрамі Маладога Фронту адбылося той жа ноччу. Чацвёра «маладафронтаўцаў» на цягніку «Гродна-Масква» накіроўваліся ў белакаменную, каб адзначыць 2 красавіка пікетамі ў месцах, дзе мог з'явіцца А.Лукашэнка. Аднак на чыгуначнай станцыі ў Оршы, затрымаўшы на некалькі гадзінаў цягнік, мясцовае ўпраўленне КДБ ды супрацоўнікі крымінальнага вышуку правялі вобшук, прычым, па словах П.Севярынца, «трэслі ўвесь вагон», дзе ехалі «маладафронтаўцы».

Мэта перформанса 1 красавіка і паездкі ў Маскву была адна: «паказаць, што моладзь пратэстуе супраць інтэграцыйных памкненняў Лукашэнкі, што моладзь – за незалежную Беларусь».

Рыгор БУЯН

# Імітацыя дэмакратычнай традыцыі

*Беларуская сістэма органаў мясцовай улады супярэчыць усім прынцыпам Еўрапейскай Хартыі мясцовага самакіравання*



Фота Ул.ШЛАПАКА

2 красавіка ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры адбыўся наладжаны Кангрэсам мясцовых і рэгіянальных уладаў Савета Еўропы (*CLRAE*), Кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ і Фондам імя Льва Сапегі семінар на тэму «Еўрапейская Хартыя мясцовага самакіравання і роля нацыянальных Асацыяцыяў мясцовых уладаў». Разам з тым абмяркоўваліся праблемы рэфармавання мясцовых уладаў у Беларусі, у прыватнасці перспектывы далучэння нашай краіны да гэтай Хартыі і стварэнне ў нас згаданай Асацыяцыі.

Зместавую важнасць семінара можна ўцяміць са словаў прэзідэнта палаты *CLRAE* Хервіга ван Стаа: «Мясцовае самакіраванне ёсць адной з галоўных асноваў дэмакратычнага грамадства. Ступень мясцовай дэмакратыі паказвае, як далёка зайшла кожная краіна ў сваіх дэмакратычных традыцыях». Да ўсяго досведам многіх дэмакратыяў даказана, што палітычна-эканамічная сістэма з развітым мясцовым самакіраваннем больш эфектыўная, чымсьці сістэма з жорстка цэнтралізаванай уладай. Нарэшце, падпісанне і выкананне Еўрапейскай Хартыі мясцовага самакіравання – гэта адна з абавязковых умоваў для ўступлення ў Савет Еўропы (падобную заяўку Беларусь, як вядома, падала, але яе задавальненне – справа досыць доўгая, асабліва ўлічваючы тое, як развіваецца дзяржава апошнія сем гадоў).

Хартыя мясцовага самакіравання прынятая ў 1985 годзе як дамінуючая крыніца муніцыпальнага права еўрапейскіх краінаў. Ягоны грунт – прынцып субсідыярнасці. Гэта значыць, паводле Хартыі, што «ажыццяўленне дзяржаўных паўнамоцтваў, як правіла, павінна ўскладацца пераважна на органы ўлады, найбольш блізкія да грамадзянаў». То бок на мясцовыя органы ўлады. Цэнтральная ўлада не мусіць умешвацца ў тыя справы, якія можна вырашыць, так бы мовіць, унізе. Вось гэтую паўнамоцную самастойнасць органаў самакіравання на месцах і абараняе дакумент Хартыі. Тут жа гарантуецца права арганізацыі Асацыяцыі мясцовых уладаў.

Як усё гэта мусіць дзейнічаць, 2 красавіка падчас семінара прамаўлялі намеснік кіраўніка КНГ АБСЕ ў Беларусі Мішэль Рываль, дырэктар Асацыяцыі гарадоў і муніцыпалітэтаў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Ханс Герд фон Ленеп, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі мэраў Францыі Жан-Клод Фрыко. Сітуацыю што да мясцовага самакіравання ў Беларусі характарызавалі эксперты Фонду імя Льва Сапегі, у тым ліку старшыня ягонага праўлення Міраслаў Кабаса, а таксама прадстаўнікі дзяржаўнай улады (старшыня Мінгарсавета У.Папкоўскі і дэпутат «палаты» А.Красуцкі).

На дадзены момант беларуская сістэма органаў мясцовых уладаў супярэчыць ці не ўсім прынцыпам Хартыі мясцовага самакіравання. У нас зараз усталявалася якраз-такі ўладная цэнтралізацыя. Структура мясцовых уладаў уяўляе сабой двухблокавасць з прадстаўнічым і прызначальным механізмамі іх фармавання. Прычым выканаўчая «вертыкаль» мае ў рэгіёнах куды большую за Саветы дэпутатаў кампетэнцыю і куды большую рэальную ўладу. Ды і апошнія выбары ў тыя ж мясцовыя Саветы нельга назваць свабоднымі і дэмакратычнымі.

Таму не даводзіцца казаць ні пра ніякую палітычную і фінансавую самастойнасць мясцовых органаў улады ці права на іхнюю судовую абарону, як таго вымагае Хартыя аб мясцовым самакіраванні. Выснова простая – органы мясцовай улады ў Беларусі фармальна ёсць, няма сістэмы самакіравання. Нездарма нават палатнік А.Красуцкі прызнаваў, што ў яе рэфармаванні існуюць «пэўныя цяжкасці», звязаныя « са стварэннем выканаўчай «вертыкалі», а таксама «са скарачэннем паўнамоцтваў Саветаў». Пры гэтым у сваёй прамове ён наабяцаў прадстаўнікам Кангрэса мясцовых і рэгіянальных уладаў Еўропы і АБСЕ багата. Гэта і змены ў Законе «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні», і Кодэкс аб мясцовым самакіраванні, дзе функцыі рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады будуць пераразмеркаваныя ў святле Хартыі мясцовага самакіравання. Было сказана таксама, што рыхтуецца, згодна з Хартыяй, указ аб праве мясцовых уладаў аб'ядноўвацца – ствараць Асацыяцыю.

Наконт з'яўлення зараз нацыянальнай Асацыяцыі мясцовых уладаў падчас семінара меркаванні падзяліліся. Частка ягоных удзельнікаў даводзіла, што Асацыяцыя паспрыяе актыўнасці мясцовых уладаў і, як вынік, рэфармаванню беларускай сістэмы самакіравання. Іншыя казалі, што гэта будзе ўтварэнне на пустым месцы і з нічога, бо мясцовыя органы улады ў краіне зараз альбо наўпрост падпарадкоўваюцца цэнтру, альбо збольшага аморфныя.

Сапраўды, стварэнне Асацыяцыі зараз выглядала б на імітацыю дэмакратычных працэсаў у сферы самакіравання, чым і займаюцца ўлады. Сутнасным жа вырашэннем праблемы было б прыбіранне «вертыкалі».

Кірэй МАНУЙЛА

**ІМПРЭЗЫ**

# У святыя сцены былой «Вольнай сцэны» – «Безь білета»

*Наладжаная 1 красавіка Беларускай музычнай альтэрнатывай у Рэспубліканскім тэатры драматургіі прэзентацыя альбома «На неба» даволі маладога фольк-гурта «Безь білета» трохі шакіравала публіку сваёй раскаванасцю, хаця, як вядома, рок – рэч свавольная.*

Гурт «Безь білета» мае ўжо двухгадовы стаж выступленняў, а таксама праезду ў транспарце без білета, адкуль і незамысловатая назва гурта.

Вельмі здзівіла тое, што свой канцэрт, а дакладней, тэатральна-музычную акцыю, безбілетнікі вырашылі правесці менавіта на тэатральнай сцэне. Пэўна, нездарма саліст гурта Віталь узяў сабе псеўданім Артыст. Хаця экзатычная прычоска яшчэ не робіць чалавека артыстам. Гурт называе сябе фольк, насамрэч гэта азначае толькі прасочванне фальклорных матываў, бо сам гурт арыентаваны не зусім на народна-паэтычную творчасць у плане музыкі: разнастайныя стылявыя накірункі міксуюцца з неймавернай сілай.

Канцэрт быў падзелены на дзве музычныя часткі, як і альбом «На неба»: цалкам беларускамоўныя кампазіцыі і рускамоўныя з усходнімі напеўкамі, што, дарэчы, няблага аздобіла другую частку. Назву ж альбому дало, па словах Сяргея, гітарыста гурта, «жаданне адарвацца ад зямлі, узняцца на новыя вышыні». Пакуль у гурта няма трывалага, замацаванага погляду на сваю творчасць, бо, распыляючыся на мноства арыенціраў, калектыў губляе сваё, уласнае, а яно ў безбілетнікаў безумоўна ёсць: Ксюшу, салістку і выдатную скрыпачку гурта, пэўна, ужо можна назваць беларускай Ванесай Мэй.

Тэатральна-музычная акцыя «На неба» гурта «Безь білета» – эксперымент калектыву ў акцыі актораў. Выглядала ўсё як «дайце людзям адарвацца».

Нягледзячы на эксперыменты, публіка ўспрымала «Безь білета» на выдатна, асабліва вядомую іх песню «Мая краіна – Беларусь», якая прагучала ажно двойчы.

Гурт збіраецца правесці чарговы канцэрт 21 красавіка ў НарГасе. Уваход вольны ў пацверджанне сваёй назвы.

Ірына ТОЎСЦІК

